*Хай жа ўсе, усе, хто можа,*
*Возьмуць свой кіёк дарожны,*
*У край айчынны час ісці нам*
*Вывучаць свой люд.*

Ф. Багушэвіч

КУФЭРАК № 5

Культурна-гістарычная ўкладка да «Рэгіянальнай газеты»

НАВІНЫ

## К. Шыдлоўскі ў Вілейцы



ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

У аўторак у Вілейскім гісторыка-краязнаўчым музеі сустрэўся з гараджанамі вядомы краязнаўца, навуковы супрацоўнік музея ў Браславе Канстанцін Шыдлоўскі.

Кастусь не ўпершыню ў Вілейцы, аб чым "РГ" пісала. На гэты раз ён прыехаў з відэафільмамі пра сінявокі край. Расказаў пра стварэнне і выхад у свет раённай кнігі "Памяць". У адрозненне ад многіх такога кшталту выданняў, а выйшла ў Беларусі іх каля шасцідзесяці, браслаўскае ўяўляе сабой мініэнцыклапедыю краю. Тут сабраныя звесткі пра Браслаўшчыну ад часоў сівой даўніны. Дадзены пералік геаграфічных назваў раёна. Ёсць пералік населеных пунктаў з пачатку XIX стагоддзя. Апісанае жыццё этнічных груп Браслаўшчыны - беларусаў, палякаў, яўрэяў, цыганоў, рускіх старавераў. Кніга праляжала ў выдавецтве тры гады, але яшчэ паспела выйсці ў задуманым выглядзе. На сённяшні дзень такія кнігі рабіць усё цяжэй і цяжэй.

*Якім ПЯРЭЧКА.*

МОВА

## ЯК СЛОВА НАША АДГУКНЕЦЦА

Пры звароце ў беларускай мове ўжываюцца назоўнікі або ў форме назоўнага склону, або ў клічнай, як "Здароў, Барысе!". Калі ў сучаснай рускай мове клічная форма ўжо амаль зусім не сустракаецца, а ва ўкраінскай пад яе падпадаюць усе назоўнікі, то ў нашай мове клічную форму ўтвараюць толькі назоўнікі мужчынскага роду на зычны. У невялікай групе слоў пры гэтым адбываецца чаргаванне (пераход **г** у **ж**, **к** у **ч** і г. д.), і яны канчаюцца на **-а**: Божа, дружа, хлопча, чалавеча, княжа. Там жа, дзе ў падобных выпадках няма чаргавання — **у**: сынку. Назоўнікі на мяккі зычны (у тым ліку на **-й**) у клічнай форме маюць на канцы — **ю**: Ясь — Ясю, Мікалай — Мікалаю, каваль — кавалю, край — краю. Але пераважная большасць назоўнікаў у клічнай форме канчаецца на **е**: сыне, браце, куме, сваце, суседзе, Максіме, Піліпе, Якубе і г. д. Апошнім часам клічная форма як бы нанова адраджаецца, усё часцей ужываючыся ў літаратуры. Такія паэты, як Янка Сіпакоў, выкарыстоўваюць яе ў перакладах не толькі са славянскіх моў (дзе яна сустракаецца), але і з англійскай і іншых германскіх ды раманскіх моваў (Уолт Уітмен, "Лісце травы"). Прычына тут, думаецца, у асаблівай цеплыні, эмацыянальнасці клічнай формы, якая прамаўляе да нас, пачынаючы з нашах казак: "Коціку-брацiку, мяне ліска нясе...". Майстры пісьменства замацавалі гэтую форму ў векапомных радках, і яна зрабілася неадрыўнаю ад нашай мовы:

Краю мой родны! Як выкляты Богам,
Столькі ты зносіш нядолі.
*(Максім Багдановіч)*

Або палымянае купалаўскае, кінутае "Ворагам Беларушчыны":

Чаго вам хочацца, панове?
Які вас выклікаў прымус
Забіць трывогу аб тэй мове,
Якой азваўся беларус?

Вітаючыся, часта называюць імя і імя па бацьку. Памятаючы імя знаёмага, вы паказваеце гэтым сваю ўвагу. Заўважым, аднак, што звяртанне па бацьку ў нас яшчэ адносна новае. Да рэвалюцыі і пасля рэвалюцыі, у дваццатыя і пачатку трыццатых гадоў у Беларусі звярталіся, напрыклад, так: "дзядзька Янка" (да Янкі Купалы), "дзядзька Колас" (да Якуба Коласа). Але нельга сказаць, што імя па бацьку для беларусаў зусім нехарактэрнае. Услухайцеся ў нашы прозвішчы, якія нясуць памяць пра гэта з мінулых стагоддзяў: **Міцкевіч** (ад **Міцька**), **Ігнатовіч** (ад **Ігнат**), **Сергіевіч** (ад **Сяргей**), **Тамашэвіч** (ад **Тамаш**), **Пілатовіч** (ад **Пілат**) ды іншыя. І ўсё ж такі зварот, калі называецца імя й імя па бацьку, і дагэтуль успрымаецца ў нас як афіцыйны. Ад такога звароту ў нас не ўтвараецца, як гэта ёсць ва ўкраінскай мове, клічная форма. І ў беларускай сям'і не пачуеш, як у карэннай рускай, каб, напрыклад, жонка звярталася да мужа: "Иван Фёдорович!".

На сходзе побач са словамі **"Дарагія таварышы!"** добра гучыць **"Шаноўная грамада!"**. Між іншым, сёння шмат каму здаецца занадта палітызаваным зварот са словам **таварыш**, хоць у нашай нарсднай мове гэта вельмі жывое слова, сінонім слову **сябар**. Згадайма і дзеяслоў **таварышкаваць**, які сустракаецца яшчэ ў Францішка Скарыны. Ужо добры дзесятак гадоў, як да нас вярнуўся і пачаў уваходзіць ва ўжытак старабеларускі зварот **спадар, спадарыня, спадарства** (ад слова **гаспадар**), якім шырока карыстаюцца беларусы замежжа. Пра гісторыю гэтага звароту мы пагаворым асобна.

*(Працяг будзе).*

# ЗМАГАР З ПАНЯЦІЧАЎ



*Сімвалы беларускай незалежнасці*



*Янка Каляда*



*Янка Філістовіч*

Сярод многіх айчынных і замежных палітаглядальнікаў і аналітыкаў існавала, зрэшты, існуе яна і цяпер, думка аб нашай дзяржаўнай незалежнасці, якая нібыта звалілася на нас з неба і далася без асаблівых на тое намаганняў і барацьбы. Аднак, хутчэй за ўсё, па прычыне няведання нашай далёкай і блізкай гісторыі, на працягу якой на алтар Вольнасці былі пакладзеныя сотні і тысячы ахвяраў, такое меркаванне, па большай меры, не вытрымлівае крытыкі і носіць, у асноўным, суб'ектыўны і беспадстаўны характар. Доказам гэтага служыць жыццё аднаго са змагароў нацыянальна-вызваленчага руху, заклаўшага сваю цагліну ў пабудову святога храма нашае незалежнае дзяржавы, ураджэнца вёскі Паняцічы на Вілейшчыне Янкі Філістовіча. Дзякуючы звесткам, якія прадаставіў мне ягоны паплечнік і сябра Янка Каляда, а таксама дакументальнай хронiцы, сабранай Аляксандрам Лукашуком, я раблю свой аповяд пра надзвычай трагічны і кароткі лёс гэтага палымянага патрыёта.

Нарадзіўся Янка Філістовіч у студзені 1926 года ў шматдзетнай сям'і. Бацька Андрэй, дбайны, руплівы гаспадар, які працаваў ад цямна да цямна, меў сярэдніх памераў гаспадарку. Восенню 1939 года ў Заходнюю Беларусь прыйшла савецкая ўлада, якая адначасова з арганізацыяй калгасаў пачала непрымірымую барацьбу з так званым класам кулацтва. У 1940 годзе органы НКВД, адабраўшы ў сям'і Філістовічаў сельскагаспадарчы інвентар, 2 коней і 8 кароў, арыштоўваюць як кулацкі элемент бацьку і кідаюць у засценкі Вілейскай турмы. На пачатку вайны калону вязняў, у якой знаходзіўся і Андрэй Філістовіч, энкавэдысты гоняць на ўсход, але, даведаўшыся, што немцы ўжо апярэдзілі іх, прымаюць рашэнне на яе фізічнае знішчэнне. Толькі нямногім, у тым ліку Янкаваму бацьку, удаецца ўцячы ад немінучай чэкісцкай кулі. У 1942 годзе сям'я Філістовічаў пераязджае ў мястэчка Ілья, дзе бацька пачынае працаваць загадчыкам млына. Для таго, каб пазбегнуць адпраўкі ў Нямеччыну, Янка пры дапамозе сваякоў уладкоўваецца прыёмшчыкам на мясцовым маслазаводзе, дзе ўжо нейкі час, ратуючыся ад той жа долі, працуе і Янка Каляда.

У 43-м сям'я Філістовічаў зноў пераязджае, на гэты раз у Вілейку. Янку мабілізуюць на службу ў 13-ы беларускі батальён, які, як сведчаць факты, ніводнага разу не ўдзельнічаў у баявых дзеяннях, займаючыся выключна вайсковай падрыхтоўкай. Летам 1944 года, пад час адыходу на Захад, ладная частка беларусаў, у тым ліку і Янка Філістовіч, робіць няўдалую спробу пераходу да чэшскіх партызанаў. І толькі вымушанае адступленне гітлераўскіх войскаў ад Чырвонай арміі выратавала яго ад расстрэлу. Праз некаторы час Філістовіч апынаецца ў зоне амерыканскай акупацыі Нямеччыны, адкуль эмігруе ў Францыю. Тут, у Парыжы, ён знаходзіць прытулак, дзе жылі беларускія хлопцы, якія трапілі сюды рознымі жыццёвымі шляхамі. У 1948 годзе Янка паступае на гістарычны факультэт Сарбонскага універсітэта і ў ліпені гэтага ж года разам са сваімі аднадумцамі пачынае выданне культурна-асветніцкага часопіса "Моладзь". 26 сакавіка 1949 года, стаўшы ініцыятарам стварэння эміграцыйнай Беларускай Незалежнай Арганізацыі Моладзі (БНАМ), абіраецца яе старшынёй, а 11 сакавіка 1951 года, перад ад'ездам на вучобу ў бельгійскі горад Лювэн (тут Янка працягваў вучобу на 4 курсе універсітэта), становіцца сябрам Рады і ўпаўнаважаным прадстаўніком урада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Але жыццё ўдалечыні ад Радзімы, немагчымасць непасрэднага ўплыву на працэсы, якія там адбываліся, цяжкім каменем ляжала на душы Янкі. Хацелася дамоў. 9 верасня 1951 года пры дапамозе амерыканскіх спецслужбаў для арганізацыі нацыянальна-вызваленчага супраціву Філістовіч трапляе ў Беларусь, спусціўшыся на парашуце ў лясным масіве пад Маладзечнам, непадалёк ад роднай вёскі Паняцічы.

Землякі Янкі, прыціснутыя ярмом непамерных падаткаў і пазык, жывучы цяжкай, паднявольнай працай за кошт калгасных працадзён, даведаўшыся, з якой мэтай ён сюды прыбыў, не толькі не выдалі яго органам сталінскага МГБ, але далі і прытулак, і ежу. У маі 1952 года Філістовіч у лесе пад вёскай Самалі наладжвае стасункі з жаўнерамі беларускага батальёна, якія там хаваліся. Урачыста прыняўшы ўсе разам распрацаваную ім прысягу на вернасць Беларусі, вядуць нацыянальную агітацыю і падрыхтоўку сялян да антысталінскага паўстання. Неўзабаве, здабыўшы друкарскія прылады і шрыфты, сябры па лясным падполлі пачынаюць выпускаць лістоўкі і газету "Жыве Беларусь", якія яны распаўсюджваюць па меры магчымасці па навакольных хутарах і вёсках. Удзельнікі гэтага супраціву ніводнага разу не здзейснілі ні тэрактаў, ні дыверсіяў, ні, тым больш, забойстваў, якія ім потым прыпісалі следчыя і судовыя органы.

5 верасня 1952 года спецслужбы МГБ пачынаюць супраць групы Янкі Філістовіча буйнамаштабную аперацыю, у выніку якой пры перастрэлцы гінуць два лясныя жаўнеры, а астатніх, акрамя Філістовіча, арыштоўваюць. Уцалелы Янка на працягу некалькіх дзён галодны, з высокай тэмпературай, блукае па навакольных лясах, аж пакуль на трапляе ў вёску Яромічы да школьнага прыяцеля Пятра Соніча. Як аказалася, гэта была яго непапраўная памылка. Колішні сябр, які ўжо пэўны час служыў тайным агентам МГБ, падсыпаўшы яму замест лекаў снатворнага, навёў на соннага Янку органы бяспекі. Разам з Філістовічам восенню таго ж года арыштоўваецць і бальшасць яго паплечнікаў. Трапіў у адзіночную камеру "амерыканкі" і мой знаёмы Янка Каляда, які адседзеў там да суда на працягу 13 месяцаў. Па яго сведчанні, там штодня вяліся допыты падследных, якія працягваліся з 23 да 3-4 гадзінаў ночы. Падчас допытаў учыняліся і вочныя стаўкі Янкі Філістовіча з ім і леснікам Петрусём Куляшом, у чыім абходзе хаваўся атрад змагароў. Па словах Каляды, менавіта на гэтых спатканнях ён убачыў, як годна, стрымана, не хаваючы сваіх перакананняў, паводзіў сябе Філістовіч.

У 1953 годзе ўдзельнікі падпольнай групы і тыя, хто аказаў дапамогу і даў прытулак свайму адважнаму земляку былі асуджаныя ваенным трыбуналам БВА да значных тэрмінаў пазбаўлення волі і толькі пасля арышту Берыі былі часткова амніставаныя і з цягам часу вярнуліся дадому. Што тычыцца лёсу Янкі Філістовіча, то ён па артыкуле 63-2 — за здраду Радзіме, якую ён шчыра, як родную маці, самааддана і самаахвярна любіў, быў асуджаны вясной 1953 года да расстрэлу.

Так 46 гадоў таму, калі навокал пачынала ажываць проырода, трагічна абарвалася жыццё таленавітага, прыгожага беларускага хлопца, якому толькі мінула 27 год і якога сябры і блізкія параўноўвалі з іншым мужным сынам беларускага народа, які смела крочыў на эшафот, Кастусём Каліноўскім.

*Алесь ЦАДКО,*
*Маладзечна.*

 



# РУПЛІВЫ СЕЙБІТ

***Пры самай старой дарозе, якая вядзе з Маладзечна на Крэва і мае адгалінаванні на Ашмяны і Вільню, прытулілася невялікая, але багатая на добрых людзей і славутыя падзеі мястэчка Лебедзева. Шмат навальнічных стагоддзяў прашумела над яго векавымі прысадамі, шмат слаўных і ганебных спраў адбылося на яго зямлі і бліжэйшых ваколіцах. Адсюль у шырокі свет навукі і асветы, часта насуперак сваім бліжнім, выпраўляліся дзесяткі, а можа, і сотні лепшых юнакоў і дзяўчат, каб, авалодаўшы ведамі, прынесці іх у курныя і занядбаныя хаты сваіх зняверaных і абыякавых землякоў. Асабліва яскрава гэта праявілася ў нашым XX стагоддзі, тады, калі падымалася з каленяў Беларусь. Пра аднаго з такіх руплівцаў і наш расказ.***

Нарадзіўся Пётра Зяновіч у 1892 годзе ў сям'і малазямельнага селяніна. Бацька яго Станіслаў Зяновіч меў два гектары не самай лепшай зямлі, каня і дзве каровы. Сям'я складалася з васьмі душ: сам гаспадар, яго жонка, бацька гаспадара і пяцёра дзяцей. Пётра быў самы меншы. Калі маленькаму Пецю было паўтара годзіка, трагічна загінуў бацька, і сям'я засталася без свайго карміцеля. Увесь цяжар сялянскай працы лёг на плечы маці. Прыходзіцца толькі здагадвацца, як цяжка было жанчыне трымаць гаспадарку і падымаць на ногі дзяцей, старэйшаму з якіх было толькі восем гадоў. Значна пазней у аўтабіяграфіі Пётра Зяновіч напіша: "Цяжка было маці-удаве пракарміць такую сям'ю і старога свёкра. Свайго хлеба не хапала. Трэба было хадзіць на падзённую работу да пана, за 20 капеек у дзень, каб хоць трохі накарміць дзяцей. У дадатак да гэтага ў 1900 годзе адбыўся пажар, які знішчыў усе пабудовы і жывы, і мёртвы інвентар. Згарэў конь, карова і парасё".

Сям'я засталася толькі ў тым, у чым здолелі выбрацца з дома, які гарэў. Прыйшлося маці размяшчаць дзяцей па сваяках. Пётру, як самага малодшага ў сям'і, уладкавала за пастуха да суседа. Палову вясны, лета і часткова восень пасвіў гусей, свіней, кароў, а ўжо на зімовы перыяд наведваў школу. Калі споўнілася трынаццаць, скончыў пачатковую, а праз два гады яшчэ і двухкласную пачатковую.

Маючы за плячыма сякую-такую адукацыю, вырашыў папытаць шчасце ў Маладзечне. Пры дапамозе сваякоў уладкаваўся на завод па перагонцы спірту, які знаходзіўся паблізу чыгуначнай станцыі. Але замест таго, каб навучацца юнаку слясарнай справе (такая была дамова), давялося яму чысціць "па цэлых тыднях і месяцах" паравыя катлы, паліць печы, цягаць попел, адным словам, выконваць самыя брудныя і цяжкія работы. Так працягвалася больш года. Урэшце рэшт, такое становішча прымусіла хлопца кінуць такую "навуку" і вярнуцца дамоў.

Вось тут і паўстала пытанне: што рабіць далей? Яшчэ ў час работы на заводзе давялося яму пазнаёміцца з выхаванцамі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. "Вельмі хацелася мне патрапіць у іхнюю сям'ю, але для гэтага патрэбныя былі сродкі, а ў маці маёй як раз іх і не было", — так пісаў Зяновіч у сваіх успамінах. Прыйшлося папрасіцца на работу да мясцовага пана. Яму не адмовілі. Цэлае лета і восень адпрацаваў на землях памешчыка і да зімы ўдалося сабраць пятнаццаць рублёў, за якія купіў патрэбныя падручнікі і пачаў рыхтавацца да паступлення. Ён разумеў, што здаць экзамены і стаць навучэнцам — гэтага яшчэ мала, — трэба было так вучыцца, каб атрымоўваць казённую стыпендыю. Цэлую зіму і вясну прасядзеў за кнігамі. Непрыкметна праляцелі зімовыя месяцы з шалёнымі завірухамі і траскучымі маразамі, з велізарнымі гурбамі абапал дарог. Адшумелі сваю песню вясёлыя ручайкі, вярнуліся з далёкага выраю птушкі, апрануліся ў зялёные ўбранне дрэвы. Прыйшла пара стаяць перад прыёмнай камісіяй.

Тых, хто паступаў у семінарыю, было больш трохсот пяцідзесяці чалавек. Здалі экзамены і былі прынятыя толькі сорак, з іх чатыры пачалі атрымоўваць казённую стыпендыю. Адным з такіх шчасліўцаў быў Пятро Станіслававіч Зяновіч. Гэта адбылося ў 1910 годзе.

Якой жа ўбачыў сваю новую alma mater П.Зяновіч у той далёкі і для яго лёсаносны год. Звернемся да ўспамінаў сучаснікаў. Аднакласнік Зяновіча Іван Адамавіч Міхалёнак успамінаў: "Вучэбны корпус уяўляў сабой масіўны цагляны двухпавярховы будынак у выглядзе літары "П" з хатняй царквой. Тры вялікія аднапавярховыя драўляныя корпусы адводзіліся пад інтэрнаты семінарыстаў... Асобна стаяў вялікі драўляны будынак пачатковай школы. Увесь гэты комплекс будынкаў быў абнесены з вуліцы тоўстай цаглянай сцяной. З тылу да комплекса семінарскіх будынкаў прымыкаў стары парк з векавымі ліственнымі дрэвамі — ліпай, дубам, клёнам, ясенем і тапаляю. За паркам і агародам быў бачны семінарскі луг...". Семінарысты вывучалі Закон Божы, гісторыю праваслаўнай царквы, заалогію, батаніку, арыфметыку, геаметрыю, царкоўнаславянскую і расійскую мову, літаратуру, методыку выкладання, дыдактыку, псіхалогію ды іншыя прадметы. У той час дырэктарам быў Апанас Вінцэсевіч Ярушэвіч — вельмі адукаваны педагог і выдатны чалавек. З выкладчыкамі Зяновічу таксама пашанцавала. А сярод іх: А.Я.Траненкаў (прыродазнаўства), І.І.Рэйнскі (руская мова), В.К.Зайцаў (маляванне), А.С.-Багдановіч (матэматыка), С.Дз.Вігілёў (гісторыя, геаграфія), І.Д.Ганчарэнка (спевы, кіраўнік хору) ды іншыя. На ўсё жыццё захаваў Пётра любоў і павагу да гэтых людзей.

Але асаблівай пашанай і сімпатыяй карыстаўся ў семінарыстаў дырэктар. Менавіта ён у гэтай наскрозь афіцыйнай навучальнай установе стараўся прышчапіць сваім выхаванцам прыхільнасць да сваёй роднай беларускай песні, мовы, гісторыі. Дзякуючы яму дзесяткі маладых юнакоў потым увальюцца ў беларускі нацыянальна-вызваленчы рух, стануць яго правадырамі, ратаямі, сейбітамі. Сярод апошніх будзе і Пётра Зяновіч. Па ўспамінах яго родных, на апошнім курсе Пётра па-сапраўднаму пасябраваў з маладым семінарыстам, які толькі пачынаў вучобу і якога ведалі, як простага і задушэўнага хлопца з такім мілым прозвішчам Кудзелька, які з цягам часу стане вядомым беларускім паэтам Міхасём Чаротам. Праўда, працягвалася яно нядоўга, бо хутка давялося расстацца. Але яны яшчэ сустрэліся, а адбылося гэта ў Мінску ў векапомным 1918 годзе, калі па пільнай справе зазірне Зяновіч у "Беларускую хатку" і ўбачыць там у стройным хоры пад кіраўніцтвам В.Тэраўскага ў вышыванай кашулі юнака з непаслухмяным чубам і пазнае яго...

Але гэта было значна пазней. А тады ішоў 1914 год і трэба было здаваць выпускныя экзамены. У жніўні Пётр Зяновіч атрымаў званне народнага настаўніка. "З тых дзён і па сённяшні час працую на ніве народнай адукацыі", — згадваў Зяновіч у сваёй біяграфіі. Вельмі хацелася вучыцца далей, атрымаць вышэйшую адукацыю, але быў накіраваны настаўнікам Мейшагольскага двухкласнага пачатковага вучылішча Віленскай губерні. Здавалася, што гэта часова, ненадоўга, але атрымалася інакш. Пачалася першая сусветная вайна. У лютым 1915 года быў прызваны на вайсковую службу і накіраваны ў школу прапаршчыкаў. Пасля яе заканчэння па лістапад 17-га знаходзіўся на Паўночным фронце пад Рыгай. Салдаты яго любілі — заўсёды ўсмешлівага, добразычлівага, веселуна, які стараўся да кожнага знайсці падыход і агульную мову. Пасля дэмабілізацыі вяртаецца на Радзіму. Жыве і працуе ў родным мястэчку настаўнікам школы, а ў 1918-1919 г.г. загадчыкам Лекарэўскага народнага вучылішча Мінскага павета. Але цягнула дамоў.

У лістападзе таго ж года вяртаецца ў Лебедзева і пачынае рабіць захады пра адкрыццё беларускай школы. Спачатку ўсё ішло належным чынам: было знойдзена памяшканне, адрамантавана, сабрана патрэбная колькасць вучняў. Пачаліся першыя заняткі. Але беларуская школа была бяльмом у воку польскім акупацыйным уладам. Пачаліся інтрыгі... Вось як пісала пра гэта беларуская газета "Наша думка" ад 8 красавіка 1921 года: "У нашым мястэчку адчынена ў лістападзе 1920 года беларуская двухклясовая школа, а ў студні 1921 польская... У школьным будынку адзін маленькі пакоік займае пад кватэру вучыцель беларускай школы. Пані кіраўніца "Стражы Крэсовай" у Вялейскім павеце п.Невяроўская задалася мэтаю выжыць адтуль гэтага вучыцеля з сям'ёй. Яна дабілася ад п.Старосты Вялейскага павету распараджэння выселіць з кватэры сям'ю вучыцеля праз начальніка Маладэчанскага раёну. Ні заява вучыцеля, што ў мястэчку немагчыма знайсці кватэру, бо ў мястэчку стаіць войска, ні довады на правы займаць гэтую кватэру, як вучыцелю мяйсцовае школы — нічога не памагае. Усюды адзін адказ "Tu bedzie polska szkola". У хуткім часе беларуская школа была зачыненаz, а настаўнік застаўся без працы. Але гэта мала хвалявала чарговых акупантаў.

У тым жа 1920 годзе Пётра Зяновіч паступае на Віленскія Беларускія Настаўніцкія Курсы, якія былі створаныя з мэтай перападрыхтоўкі былых выкладчыкаў расійскіх школ. Там настаўнікі засвойвалі азы беларусазнаўства, што ўключала ў сябе веды па гісторыі, геаграфіі Беларусі, мове, літаратуры. Дырэктарам курсаў быў выдатны беларускі дзеяч Клаўдзіюш Душ-Душэўскі, а выкладчыкамі Антон Луцкевіч, Максім Гарэцкі, Янка Станкевіч, Міхал Кахановіч ды іншыя. На здымку, змешчаным у "Ілюстраванай храналогіі гісторыі Беларусі", выдадзенай у Мінску ў 1997 годзе, можна ўбачыць у трэцім радзе знізу і стрыжаную галаву Пятра Зяновіча, побач, праз аднаго чалавека, сядзіць Язэп Драздовіч. Гэта невыпадкова. Яны сябравалі. Сваякі Зяновіча расказвалі, што ў яго кватэры вісела некалькі вельмі цікавых карцін "з казачным сюжэтам", як яны гавораць, але дзе тыя карціны — ніхто ўжо не ведае. Адзінае, што яны добра памятаюць, гэта тое, што Пётр Станіслававіч часта паўтараў: "Гэтыя абразы намаляваў мой сябра Юзік Драздовіч, з якім я вучыўся на Курсах". Акрамя Драздовіча, сябраваў з В. Азерскім. Менавіта з ім Пётр Зяновіч шмат дапамагаў Сымону Рак-Міхайлоўскаму ў станаўленні Барунскай Беларускай Настаўніцкай Семінарыі. Пра гэта вельмі хораша напісана ў "Беларускім календары" за 1922 год, выдадзеным у Вільні: "...Узімку была адчынена ў Барунах Ашмянскага павету Беларуская Вучыцельская Семінарыя, пры закладзінах якой шмат паклаў працы дырэктар яе грам. С. Рак-Міхайлоўскі. Памагалі яму актыўна вуч. П. Зяновіч і В. Азерскі". Калі чытаеш такія словы, то хочацца ад усёй душы, ад усяго сэрца пакланіцца тым ахвярным працаўнікам беларускай асветы, якія працавалі не за грошы, а за вялікую ідэю, для якіх "Беларусь не прафесія, а прыгожая мара, змест нашага жыцця". Але, на вялікі жаль, гэтая семінарыя праіснавала кароткі адрэзак часу. Восенню 1921 года яе зачынілі і на яе аснове была арганізаваная дзяржаўная польская настаўніцкая семінарыя. Зяновіч вяртаецца на радзіму. Ізноў робіць хадайніцтва, каб адчыніць родную беларускую школу ў м. Лебедзева, але безвынікова, польскія ўлады такога дазволу не даюць. А ў студзені 22-га у прымусовым парадку ўсе настаўнікі беларускіх і былых расійскіх школ адпраўляюцца на польскія настаўніцкія курсы ў Кракаў. Сярод тых, хто ад'язджаў быў і Пятро Зяновіч...

Можна толькі меркаваць, што рабілася ў душах тых першых настаўнікаў-патрыётаў, якія так хацелі падняць на небывалую вышыню славу сваёй Бацькаўшчыны і якія цудоўна разумелі, што толькі родная школа можа выхаваць сапраўдных сыноў і дачок сваёй зямлі. Вярнуўшыся на Беларусь, Зяновіч працягваў працаваць настаўнікам, толькі ўжо польскіх школ. Нейкі час быў загадчыкам школы ў вёсцы Кузьмічы на Вілейшчыне, дырэктарам у Залессі на Смаргоншчыне, але нават такое становішча не задавальняла польскія ўлады, бо настаўнік быў "пракляты беларусін". І таму ў лістападзе 30-га яго адпраўляюць на працу ў раёны Цэнтральнай Польшчы, адкуль ён вярнуўся толькі праз два гады. У аўтабіяграфіі пра гэты перыяд ён напісаў: "Пасля страшэнных стаpанняў здолеў вярнуцца на Радзіму, але ўжо не ў Залессе, а ў вёску Кавалі Смаргонскага раёну і там прапрацаваў у якасці дырэктара да прыходу Чырвонай арміі". Затым была работа ў якасці завуча ў Смаргонскай расійскай школе, дзе прарабіў да пачатку вайны.

У час нямецкай акупацыі жыў у Лебедзеве, дзе быў дырэктарам мясцовай школы. Перажыўшы пераследы з боку польскіх і савецкіх уладаў, Пётру Зяновічу здавалася магчымым выкарыстаць той мінімальны шанц, што даваў час для стварэння разгалінаванага беларускага школьніцтва. Акрамя абавязкаў дырэктара ўзяў на сябе выкладанне роднай мовы і літаратуры, тое, што пасапраўднаму ведаў і любіў. На гэтай пасадзе і застала яго вызваленне. Арыштавалі Пятра Станіслававіча Зяновіча ў канцы лістапада 1944 года. Загінуў выдатны беларускі педагог, патрыёт і змагар у 1947 годзе у далёкай Варкуце...

Я не ведаю, як для каго, а для мяне верш Янкі Купалы "А хто там ідзе?" не нейкі там абстрактны вершаваны твор, а напоўнены канкрэтным зместам гімн — дэвіз нашага Адраджэння. І ідуць там не нейкія безаблічныя людзі, а змагары, патрыёты, сейбіты. Вось, здаецца, адчуўшы саму непрадказальнасць нашага часу, ідуць, спяшаюцца нам на дапамогу карэктны і разумны Мікалай Грышкевіч, шляхетны і адукаваны Адам Більдзюкевіч, набожны і адначасова патрыятычны айцец Віктар Шутовіч, працавіты і добры Юзя Шчупак, абаяльны і шчыры Міхась Забэйда-Суміцкі, цвёрды ў перакананнях Пётра Зяновіч... Яны нашы землякі, тыя, што ў сілу свайго таленту, магчымасцяў стварылі неўміручы гмах, вялікі дом, імя якому — Беларуская культура. Памятайма пра іх!

***Міхась КАЗЛОЎСКІ.***



*Пётра Зяновіч з каханай. 1916 год.*



*Пётра Зяновіч з сям'ёй. Лебедзева, 1944 год.*



 

НА КАРЦЕ НАШАЙ ЗЯМЛІ

# ВЕРНЕМ СТРАЧАНАЕ

*(Працяг, пачатак у "Куфэрку" №3)*

## Павага да іншых плямён і народаў

Якую магутную гаючую сілу для душы даюць паездкі па роднай старонцы! Тут табе прыветна ўсміхнуцца і Дулебы ў Бярэзінскім, і Валынцы, і шматлікія Паляны (Вілейскі, Маладзечанскі і іншы раёны, і Дзераўно Лагойскага, і Севярыны Салігорскага, і Славенск (Валожынскі), і Наўры і Славічы ў Мядзельскім і Слаўчаняты ў Смаргонскім, і Валаты ў Слуцкім. Гэта спрадвечныя помнікі тым дулебам, валынянам, палянам, драўлянам, севярынам, славенам і наўрам, якія ў далёкай старажытнасці прайшлі тут да месца сваёй «пастаяннай прапіскі». Асеўшы ў нас невялікімі паселішчамі, яны «наслядзілі» гэтымі цудоўнымі назвамі вёсак і прозвішчамі: Дулеба, Валынец, Дзеравянка, Севярын, Валатовіч і да т. п. А Ляхі і Тураўшчына ў Вілейскім раёне, Татары ў Валожынскім, Прусы - у Старадарожскім і Салігорскім і іх шматлікія варыянты ў Вілейскім, Маладзечанскім, Валожынскім, Мядзельскім і іншых раёнах. Уяўленне ўваскрашае тых тураўшчан, якія ратаваліся ў цэнтры Беларусі, каб не трапіць пад крывую шаблю крымчакоў. Ляхі (палякі) і прусы тут хаваліся ад крыжацкай няволі. А татары 600 гадоў таму пасяліліся служыць нашай краіне і цудоўна даказалі сваю адданасць ёй ужо пад Грунвальдам у 1410 годзе.

Выказалі павагу нашы продкі нават да печанегаў, якія з паўднёвых стэпаў прыходзілі разбуральнымі паходамі да нас у VIII-XI стагоддзях, захаваўшы вёску Печанеж у Касцюковіцкім раёне. Полаўцы, якія ў канцы XI стагоддзя ўдзельнічалі ў міжусобных войнах славян, засталіся ў назвах вёсак Палаўкі, Палаўковічы і Полава. Лівы захаваліся толькі ў адным тапоніме - вёсцы Лівы Дзяржынскага раёна, обры (авары) - у назвах Аброва і Абраўцы ў Іванаўскім раёне і інш. Яцвягі на нашай зямлі згадваюцца часцей: вёскі Ятвезь у розных раёнах і Ятвязь - у Свіслацкім. Сувязі з чэхамі адлюстраваныя ў назве вёскі Чэхі Астравецкага і многіх іншых і Чахаўшчы Валожынскага раёна.

Знайшлося месца на Беларусі і паселішчам немцаў: гэта Швабы ў Ашмянскім і падобныя ў іншых раёнах, а таксама Маёраўцы, Маёраўшчына - у многіх іншых, Рум - у Валожынскім, а Цагельня даволі распаўсюджана паўсюдна.

Сапраўды, Беларусь цалкам апраўдвае званне цэнтра Еўропы, даўшы прытулак прадстаўнікам многіх плямён і народаў і ўвасобіўшы іх імёны ў населеных пунктах сваёй зямлі.

## Хто вы, крэвы, гуды, русіны?

Назва Беларусь (чыгуначная станцыя на лініі Мінск - Маладзечна) сустракаецца на карце Радзімы толькі адзін раз, бо яна з'явілася нядаўна. А вось крэвамі нас латышы завуць здавён, пагэтаму шырока вядомая вёска Крэва ўжо з XIII стагоддзя ў Смаргонскім раёне, Крайванцы - у Ашмянскім і старажытная назва Вільні - Крэйвапіліс. Таксама ёсць шмат паселішчаў, якія ўвасабляюць літоўскую назву беларусаў - гуды: Гуды - у Валожынскім раёне, Гудзяняты - у Ашмянскім, Гудагай - у Астравецкім, а таксама Гудзевічы, Гудовічы, Гудава, Гудзелі, Гудзелішкі ў розных раёнах Беларусі.

У сярэднявеччы і пазней беларусаў называлі яшчэ і русінамі. Таму нямала паселішчаў носяць у сваёй аснове корань -рус-: Русакі (Валожынскі, Мядзельскі і іншы раёны), Русакоўцы (Валожынскі), Русалішкі (Маладзечанскі), Русачкі (Мядзельскі), Рускае Сяло (Вілейскі і інш.).

Як бачым, у гэтых тапонімах адлюстраваліся змены ў назве і саманазве беларусаў.

## Адбітак асаблівасцяў прыроднага асяроддзя

Задумаемся, якія назвы-тапонімы на Беларусі сустракаюцца найчасцей. Тыя, якія адлюстроўваюць характэрныя асаблівасці нашай прыроды. А паколькі больш за ўсё ў нас балот і лясоў, рэк і азёр, то і праносяцца міма Забалацце ў Вілейскім, Маладзечанскім і інш. раёнах, дзве вёскі Забалаць на Валожыншчыне, Ляскі, Азярэц, дзве Рэчкі і Лясная ў Вілейскім, Лясноўка ў Валожынскім, Азёркі на Мядзельшчыне і падобныя ў іншых месцах. Вельмі шануецца ў нардзе хваёвы лес — бор, таму аж пяць Бароў «шумяць» у Граніцкім сельсавеце на Маладзечаншчыне, а ўсяго іх толькі па Мінскай вобласці 27! А колькі народ увасобіў любімых парод дрэў у назвах вёсак: зноў жа толькі ў Мінскай вобласці 89 «дубовых» і «дубраў», 28 «бярозавых», 13 «асінавых», па 12 «арэхавых» і «сасновых» і 5 «кляновых». Дубкі, Дубровы, Бярозаўка, Асінаўка, Арэхаўкі, Сасноўкі, Кляноўкі і падобныя красуюцца па ўсёй Беларусі.

Бывае, што ўжо гола навокал, як бубен, але старажытныя назвы даносяць да нас шум былых лясоў, якія тут некалі поўніліся вясёлым гоманам птушак.

*(Працяг будзе)*

***Аляксандр НАРКЕВІЧ,***
***Вілейка.***

*Валерый РОГАЧ.*

## Барбара

Ў скарбніцу дзень за днём
лажыцца,
Як год за годам у вякі.
Барбара ростанню імчыцца
І пакідае нам знакі.

Магнаты, шляхта, двор,
гульбішча,
Тут чэлядзь, хлопцы
пад рукой
Крулёўнай йдзеш ты
на ігрышча,
У кожным кроку род, пакой.

Дзяцінства хутка адспявала,
Прыйшоў час любага абраць,
Ды вось бацькоў
забракавала,
Няма каму сватоў прыняць.

А ты – лілея, кветка–ружа,
Ты у вясельны час прыйшла.
Без бацькі, маці гора кружа,
У Нясвіжы дом другі
знайшла.

Станіслаў Гоштвальд стаў
вам мужам,
Але у 20 год – удава.
І зноў па бездарожжу–мукам,
А гора рэжа бы ўдвая.

Ты прыгажэйшая у дзвюх
дзяржавах,
І Аўгуст–Жыгімонт
ля ног тваіх.
Два Радзівілы: Руды, Чорны,
Барбара казкай паміж іх.

Дзе гандаль йдзе,
краса бракуе,
А гандлю кошт – карона,
жэзл.
Ну, а Барбара не звякуе,
Хоць з Жыгімонтам,
а хоць без!

Між двух агнёў
кароль застаўся,
Там маці, тут Радзівіл Руды.
Кароль даў клятву –
з ёй не знаўся,
Не прынясу я ёй бяды!

Каханне ж вірам зацягнула,
Загінуў Аўгуст–Жыгімонт.
Кахання тайна яўю стала,
І хуткі Радзівіл на гэты конт.

Вянчанне тайнае збылося,
Барбара – жонка караля.
Аптэкар Монці – ўсё,
што засталося,
Ад Боны Сфорцы.
Потым, спакваля...

Атрута, яд міланскі
ставіць кропку,
Адмерыўшы ў паўгода шлях.
Хоць раз бы ўбачыць
як валошку
На досвітку, у лепшы час.

І вось пан Мнішак
і Твардоўскі,
Пад каралеўскаю рукой-
Усё гатова, тут
не жарт сяброўскі,
Сустрэча пасля смерці
і блуканне зноў!

Барбара з Аўгустам сышліся
на хвіліну,
Ён ўскрыкнуў,
ёй вякі блукаць.
За што, ну за якую
там правіну,
Кахання Барбары
не дадзена спазнаць.

Ў Нясвіжы з тых часоў
блукае
І ціха плача уначы.
Барбара Аўгуста
свайго шукае,
Не можа к любаму прыйсці.

**Наша даведка.** Валерый Рогач працуе настаўнікам гісторыі Вілейскай гімназіі. Піша вершы на гістарычныя тэмы, лірыку. У "Рэгіянальнай газеце" публікуецца ўпершыню.

ФІЛАСОФІЯ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ

# ВЫЦІНАНКА - З'ЯВА ДУХОЎНАЙ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСАЎ



Шмат чаго добрага не ведае пра сябе беларус, а ганарыцца ёсць чым — не зломак, не гультай, зямлю шанаваў, людзей паважаў і хараство наваколля бачыў. Традыцыйныя рамёствы — кавальства, ганчарства, ткацтва, пляценне з аднаго боку ўтылітарныя, з другога — знак гармоніі чалавека і прыроды, апавяданне аб прыгажосці сусвету. Самым нетрывалым, крохкім з відаў народнага мастацтва на Беларусі з'яўляецца выцінанка ці выразанка, выразка, выстрыганка.

Майстэрства выразання сілуэта з паперы нарадзілася ў Кітаі, дзе і была вынайдзеная папера. З сакрэтам яе вырабу сілуэтная графіка распаўсюдзілася па розных кутках зямлі. Ужо ў XVI ст. сам турэцкі султан высока цаніў такія творы і шанаваў майстроў выцінанак. У Еўропу гэты від мастацтва трапляе праз Персію і Турцыю ў познім сярэднявеччы і ў XVIII-XIX стагоддзях распаўсюджваецца амаль па ўсёй яе тэрыторыі.

Народная і шляхетная выцінанка адрозніваліся па прынцыпах пабудовы. У дваранскім і гарадскім асяроддзях яна існуе як рэалістычная карціна альбо профільны партрэт, пабудаваны на выразнасці сілуэта. Такія кампазіцыі ўпрыгожвалі сядзібныя інтэр'еры і дамскія альбомы. Менавіта ў такім выглядзе цікавіла выцінанка Г.Х. Андэрсена, І.В. Гётэ, І. Рэпіна, Анры Маціса. У літаратурным музеі Я.Коласа ёсць яго сілуэтны партрэт, выкананы з натуры французскім майстрам у 1938 годзе, калі паэт наведваў Парыж.

Народная выцінанка мае зусім іншае паходжанне. Час яе бытавання — канец XIX-першая палова XX стагоддзяў. Пашырэнне вырабу паперы, яе даступнасць і змена ў сялянскім інтэр'еры (курныя хаты былі выцесненыя "чыстымі" і сцены сталі бяліцца) прывяло да пашырэння такой творчасці. Выцінанка стылізавала і перапрацоўвала ўзоры ткацтва і вышыўкі. Пасутнасці, яна замяняла каштоўныя матэрыялы (рушнікі, падзоры). З паперы рабіліся сурвэткі, фіранкі на вокны, аздабляліся палічкі. А ў прасценках паміж вокнамі рабіліся нават сіметрычныя кампазіцыі сімвалічнага зместу. Паколькі беларускі арнамент збярог шмат старажытных сімвалаў, то яны перайшлі з ткацтва і вышыўкі ў выцінанку.

На жаль, амаль не зберагloся аўтэнтычных узораў, таму што кожны год старыя выцінанкі замяняліся новымі. Але ж палякі маюць вялікую колькасць старажытных узораў, музей выцінанкі ў Торуні, шмат даследаванняў на гэтую тэму. Гэта іх нацыянальны гонар. А мы можам толькі наракаць на сваю абыякавасць да народнага мастацтва і на сябе наогул. Праўда, пачынаючы з 70-х гадоў адбыўся ўсплёск цікавасці да выцінанкі. Ёй пачалі займацца прафесійныя мастакі. У чым жа прычына?

Дазволім сабе невялікі экскурс. У аснове пабудовы выцінанкі ляжыць сіметрыя. Яна мае глыбокі філасофскі сэнс, як універсальны прынцып пабудовы сусвету. Калі вы ўзгадаеце любую навуку - біялогію, матэматыку ці мастацтва, літаратуру (асабліва казкі) і музыку, то ўбачыце адлюстраванне сіметрыі рознымі спосабамі. У выцінанцы выкарыстоўваюцца тры віды сіметрыі: радыяльная, рапортная, або лінейная, і люстраная.

Радыяльная сіметрыя нагадвае нам пабудову сусвету ад пункту звышшчыльнай матэрыі. У фізіцы яго называюць пунктам сінгулярнасці. Але тое ж гаворыць і Біблія: "Спачатку было Слова і Слова было Бог". У архаічным мастацтве радыяльная сіметрыя прымае універсальную форму мандалы. "Мандала" ў перакладзе з санскрыту — круг. Ён мае цэнтр і чатыры напрамкі. Найбольш гэтая форма насычана сімволікай у народаў Усходу. У будызме яна існуе як форма медытацыі. У нашым мастацтве мандала існуе ў форме сурвэтак.

Лінейная сіметрыя (рапортная) з пераносам паралельных восей адлюстроўвае паступовы рух ці ўвасабленне бясконцага часу — чацвертага вымярэння нашага матэрыяльнага існавання. Гэта таксама цыклічнасць, якой падпарадкоўваецца прырода і жыццё, чалавек.

Люстраная сіметрыя ярка паказвае міфалагічную свядомасць чалавека і тып калектыўнай свядомасці першабытных людзей.

зло ----------- дабро
месяц ---------- сонца
цёмны --------- светлы
адмоўны ------ станоўчы
жанчына ------ мужчына
левае ---------- правае

Але ж правы і левы бок падобны, як падобны мужчына і жанчына, у святле ёсць цемра, а ў цемры — святло, і другі раз цяжка вызначыць дабро ці зло напаткала нас.

Абагульняючы, мы маем падставу гаварыць аб архетыпах. Па тэорыі Юнга архетып — гэта правобраз, знак будучай пабудовы. Ён нагадвае восі крышталізацыі рэчыва. Як у спрыяльных умовах утвараецца крышталь, так у розных народаў — аднолькавыя сюжэты казак, аднолькавая архаічная сімволіка, адныя і тыя ж думкі прыходзяць людзям, якія ніколі не бачылі адзін аднаго. Такім чынам, сёння мы маем абуджэнне архетыпаў, якія прыводзяць шмат людзей на Беларусі да заняткаў з выразаннем папяровых узораў. Трэба заўважыць, што мы маем досыць высокую графічную культуру, якая ідзе яшчэ з часоў Ф.Скарыны, бо ў той час адукаванай была не толькі знаць, але і гарадское насельніцтва, якое вучылася па друкаваных кнігах з выдатным графічным аздабленнем. Выцінанка шмат чым нагадвае гравюры на дрэве: тое ж напружанне, барацьба паміж чорным і белым, фонам (хаосам) і формай (праяўленнем). Таму і майстэрства гэта, раз з'явіўшыся, перажыўшы заняпад, ужо не згіне, не згубіцца ў часе, бо яно — частка нашай душы, як і нашыя славутыя продкі.

***Наталля ЧЫРВОНЦАВА,***
***Маладзечна.***

# Імёны і псеўданімы вуліц Крэва



Цяпер іх у Крэве толькі шэсць. Але пагартайце старыя дакументы школьнага краязнаўчага музея і паспрабуйце скласці спіс усіх назваў вуліц, якія вам патрапяць. У выніку гэтай працы ў вас узнікне пытанне: "А ці не вымірае Крэва?" Бо ў спіску вашым будзе каля дваццаці найменняў. Але не спяшайцеся рабіць высновы. Вазьміце лепш старыя карты мястэчка. Параўнайце старажытную планіроўку з сучаснай. Акажацца — амаль адно і тое ж. Дык куды дзеліся тыя паўтара дзесятка вуліц, якіх вы не знайшлі на плане сучаснага Крэва?

А іх і не было. Былі толькі розныя імёны і псеўданімы тых шасці вуліц, якія існуюць і ў наш час. Але спачатку — пра імёны.

Закончылася І сусветная вайна. Лінія фронту, якая пралягала праз Крэва каля трох гадоў, амаль поўнасцю сцёрла наша мястэчка з твару зямлі. Засталіся толькі моцна разбураныя сцены замка ды каменная царква з пашкоджанай снарадам званіцай. Усе драўляныя пабудовы былі спалены. На іх месцы буйна разрасліся крапіва ды палын.

Нягледзячы на такое спусташэнне, мястэчка пачало адраджацца. І што цікава, адноўленыя вуліцы з'яўляліся менавіта там, дзе яны былі да вайны. Нават назвы іх засталіся такімі, якія яны атрымалі шмат вякоў назад. Чаму так? Можа невядомая сіла цягнула былых уцекачоў на прывычнае старое месца? Магчыма. Але гэта імкнне тлумачыцца яшчэ і тым, што размяшчэнне вуліц, якое склалася тут у даўнія часы, было найбольш выгодным. Нават з назваў іх можна здагадацца, чаму тая ці іншая вуліца з'явілася менавіта тут. Глядзіце самі.

Па-першае, мястэчка пайшло ад пабудаванага тут у часы Гедзіміна замка. Таму і стаў ён сэрцам паселішча на ўсе часы. Тут, на Рынкавым пляцы, збіраліся кірмашы, вырашаліся ўсе местачковыя праблемы. Вядома ж, вуліца, якая тут праходзіла, называлася Замкавай. Па-другое, многія вуліцы раскінуліся паабапал рэчкі Краўлянкі. Такое размяшчэнне было выгодным для вядзення гаспадаркі і заняткаў ганчарным промыслам. Адна з вуліц і атрымала назву Зарэчнай. Па-трэцяе, некаторыя вуліцы размясціліся ў накірунку да іншых населеных пунктаў і нават краін. Так з'явіліся назвы Смаргонская, Барунская, Багданаўская і Пруская. Часам вуліцы атрымоўвалі свае назвы ад тых, хто на іх жыў, альбо ад таго, якімі адметнымі рысамі яны вылучаліся. У Крэве былі вуліцы Татарская і Пескавая. Назвы гэтыя можна сустрэць яшчэ ў апісанні Крэва 1789 года. І пражылі крэўскія вуліцы пад сваімі імёнамі ажно да 20-х гадоў XX стагоддзя.

Пасля Рыжскага міру нашы землі аказаліся ў складзе Польшчы. Нягледзячы на тое, што большасць мясцовага насельніцтва была беларусамі, праводзілася палітыка паланізацыі. Пацярпелі ад яе нават крэўскія вуліцы. Многія з іх атрымалі новыя імёны. Дакладней кажучы — псеўданімы. Бо ніякага сэнсу, акрамя ідэалагічнага, гэтыя перамены не мелі. Тады больш пашанцавала вуліцам Замкавай і Зарэчнай. Яны захавалі свае назвы. Дарэчы, толькі адной Зарэчнай удалося ва ўсе часы захоўваць імя, атрыманае пры нараджэнні. Вуліца Барунская стала называцца Ашмянскай, Прускай было дадзена імя Касцюшкі. А вось Смаргонская была перайменавана ў гонар тагачаснага кіраўніка ўраду Польшчы Пілсудскага, вуліца Багданаўская набыла імя апошняга караля Рэчы Паспалітай Панятоўскага, а маленькая Пескавая стала называцца гучным імем Напалеона. Чалавека, які крыху больш ста гадоў назад быў у гэтых краях у якасці заваёўніка. Прыйшоў 1939 год. На змену адной ідэалогіі прыйшла іншая. І, вядома ж, "панска-польскія" назвы вуліц не маглі існаваць. Здавалася б, ёсць шанц вярнуць ім першапачатковыя імёны. Часткова так было і зроблена: на карце Крэва ізноў з'явілася Смаргонская і Багданаўская. Барунская засталася з назвай Ашмянская. Але затое колішняя Татарская цяпер атрымала імя Дзяржынскага, а Пруская (у народзе называная яшчэ і Радзівонаўкай) стала Савецкай. Пескавая ж (якая некаторы час называлася Маладзечанскай) зусім згубіла сваю назву, стала лічыцца часткай вуліцы Зарэчнай. Такі ж лёс напаткаў і Замкавую, якая таксама перастала існаваць як самастойная і ўвайшла ў склад вуліцы Дзяржынскага.

З такімі назвамі жывуць Крэўскія вуліцы і па сёння. На вачах з'яўляецца новая — Маладзёжная. Названая так, бо селяцца на ёй маладыя сем'і. Але можа стацца так, што пастарэюць гэтыя людзі, і імя Маладзёжнай заменяць на які-небудзь псеўданім. Бо не хочуць у нас помніць, з чаго ўсё пачыналася!

А вось у Парыжы, напрыклад, самы старажытны мост ужо многа стагоддзяў носіць імя Новы.

*Аляксандр КАМІНСКІ.*

## ГАСПАДЫНІ НА ЗАМЕТКУ

### АЎСЯНЫ КІСЕЛЬ

Намачыць два фунты* аўсянай мукі ў халоднай вадзе, пакласці туды для закваскі некалькі скарынак жытняга хлеба і даць цэлую ноч кіснуць. Раніцай працадзіць праз сіта і варыць, памешваючы, потым пасаліць і яшчэ раз закіпяціць. Талеркі спаласнуць халоднай вадой, разліць у іх кісель і астудзіць. Ядуць яго з макавым малаком або з мядовай сытай.

### ГАРОХАВЫ КІСЕЛЬ

Гарохавую муку прасеяць, заварыць кіпнем, падліваючы яго і памешваючы, каб не было камякоў. Потым гэта закіпяціць, разліць у талеркі, астудзіць і падаваць з алеем.

### КУЛЕШ

Бярэцца грэцкая, гарохавая, бабовая альбо ячная мука, разбоўтваецца вадой (але не рэдка, бо інакш будзе калатуша) і варыцца, аж пакуль не загусцее. Падаецца кулеш абавязкова цёплым.

*** Фунт**. Мера масы. У Вялікім Княстве Літоўскім велічыня фунта вагалася ад 360 да 450 грамаў. З 1766 года- 374,82 грама. Такую велічыню і бярыце за аснову, карыстаючыся гэтымі рэцэптамі.

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ АДУКАЦЫІ

# Семінарыя ў Барунах

## Беларуская настаўніцкая семінарыя ў Барунах (1920-1922 г.г.) і яе значэнне для развіцця беларускай школы

У 1919 годзе вядомы беларускі дзеяч і асветнік Сымон Рак-Міхайлоўскі распачаў актыўную работу па адкрыцці беларускай настаўніцкай семінарыі ў мястэчку Баруны. Стварэнне такой семінарыі ў гэтым месцы было не выпадковым, а добра прадуманым рашэннем з улікам супадаючых аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў і жыццёвых патрэб. Па-першае, у гэты час у Барунах існаваў беларускі дзіцячы прытулак для сірот вайны. Прытулак гэты арганізаваў і ўтрымліваў беларускі святар Міхаіл Пятроўскі. Дзеці тут вучыліся ў пачатковай школцы, а ў будучыні без лішніх клопатаў маглі б стаць навучэнцамі семінарыі. Па-другое, Баруны знаходзіліся ў выгодным геаграфічным становішчы: тут перакрыжоўваліся шляхі з Гальшан на Крэва і з Ашмян на Валожын.

Але галоўнай прычынай узнікнення беларускай настаўніцкай семінарыі было жаданне і воля тутэйшага люду. Варта адзначыць, што гэты куточак Ашмяншчыны, у адрозненне ад іншых, вызначаўся больш высокай нацыянальнай свядомасцю людзей. Жыла ў народзе памяць пра свайго земляка — Францішка Багушэвіча. Людзі ведалі яго вершы, а яго ідэі нацыянальнага абуджэння яшчэ ў "нашаніўскую пару" даводзілі да свайго люду ўраджэнцы суседніх вёсак: беларускі кзёндз Адам Лісоўскі з Карандоў (3,5 км ад Барунаў) і кніжнік Стась Станкевіч з Арлянятаў (6 км ад Барунаў). Наколькі іх словы трапілі на ўрадлівую глебу — паказаў час. Звернем увагу на той факт, які не можа не ўразіць, а менавіта: з гэтых мясцін было родам шмат вядомых і малавядомых рупліўцаў беларускай справы: Адам Станкевіч, Янка Станкевіч, Стась Станкевіч — усе з Арлянятаў, беларускія святары Франук Чарняўскі і Уладзіслаў Чарняўскі — з Чухнаў і Біцянятаў (6 км ад Барунаў). З Барунамі быў звязаны лёс Янкі Багдановіча і Адама Дасюкевіча. Апошні нарадзіўся ў 3 км ад Барунаў у Копцевічах.



*Барунскі кляштар Базылянаў*

Калі прасачыць сам працэс адраджэння беларускага школьніцтва ў гэты час, то можна заўважыць, што падобных беларускіх навучальняў паблізу не існавала. І, зразумела, лепшага месца для гэтай справы шукаць было не варта.

Беларуская настаўніцкая семінарыя размясцілася ў двухпавярховым мураваным манастырскім будынку (базыльянскія муры), які быў пабудаваны ў 1808 годзе. Да рэвалюцыі 1917 года тут была мужчынская настаўніцкая школа з трохгадовым курсам навучання і двухкласная школка. Беларуская семінарыя пачала працаваць у 1920-21 навучальным годзе. І гэта, нягледзячы на актыўную дзейнасць паноў і падпанкаў, якія агітавалі сялян, збіралі подпісы, дасылалі лісты да генерала Макрэцкага, у якіх сцвярджалі, што быццам "сама люднасць ня хоча беларускую, а хоча польскую семінарыю".

Першы набор вучняў склаў 60 чалавек і шмат каму было адмоўлена з-за недахопу месцаў. У семінарыі не існавала падзелу па канфесіях: і праваслаўныя, і католікі прымаліся ў аднолькавай колькасці. Вучні ў асноўным былі з блізкіх валасцей: Куцеўскай — 16 чалавек, Лебедзеўскай (9), Альшанскай (3), і з больш дальніх: Забрэзскай (5), з Палянскай, Вішнеўскай, Палачанскай, Беніцкай ды іншых. Былі адкрытыя два першыя класы. У семінарыі выкладаліся наступныя прадметы: рэлігія, беларуская, польская і нямецкая мовы, геаметрыя, арыфметыка, геаграфія, гісторыя, прыродазнаўства, спевы. Увесь курс навукі быў разлічаны на 4 гады. Як бачым, навучальная праграма была складзеная з улікам асноўных прадметаў, што адпавядала падрыхтоўцы спецыялістаў у галіне настаўніцтва і было добрай базай для падрыхтоўкі навучэнцаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Пры семінарыі існаваў асобны інтэрнат для дзяцей, дзе яны займаліся самападрыхтоўкай, харчаваліся і адпачывалі. Дырэктарам семінарыі быў настаўнік матэматыкі Сымон Рак-Міхайлоўскі.

Здавалася, справа навучання беларускіх дзяцей роднай мове была наладжана і заставалася чакаць добрых вынікаў, але...

Пасля Рыжскага трактата 1921 года на заходніх землях Беларусі распачалася мэтанакіраваная палітыка паланізацыі. Найбольш востры наступ на беларускае жыццё ішоў з боку рэлігійных улад, у прыватнасці, каталіцкага касцёлу. У Віленскай капітуле працавалі такія ксяндзы, якія не давалі разграшэння тым пакутнікам, якія спавядаліся па-беларуску. Можна прывесці шмат прыкладаў такіх адносінаў царкоўных асоб да жыхароў Ашмянскага павета, дзе прыніжалася нацыянальная і чалавечая годнасць беларусаў. Але дастаткова будзе абмежавацца тымі, якія маюць непасрэднае дачыненне да мястэчка Баруны. Так, нейкі ксёндз-паляк прыязджае ў гэтае мястэчка і тлумачыць сялянам наступнае: "Трымайцеся моцна за Польшчу, бо інакш памрэце з голаду". А старшыня міністраў пан Скульскі ў гэтых жа Барунах хваліцца тым, што "праз 50 гадоў у Польшчы беларусаў не будзе". Так, у Барунах на кірмашы ён стаў агітаваць народ за польскі спіс перад выбарамі ў сойм. "Народ абурыўся і, пабіўшы яго, прагнаў з рынку. Ён выхапіў рэвальвер і хацеў страляць, але ўмяшалася паліцыя і абышлося без ахвяр". Яшчэ прыклад: ксёндз Ст. Маціевіч, наведаўшы беларускую сярэднюю школку ў Барунах, пагражаў вучням: "Кулька ў лоб кожнаму, хто будзе чытаць беларускія кніжкі".

У канцы 1921 года пад націскам польскіх улад быў расфармаваны ў Барунах, а часткова пераведзены ў Вільню дзіцячы прытулак. Сам Міхал Пятроўскі за беларускую дзейнасць быў на кароткі тэрмін арыштаваны, а ў 1922 годзе яго перавялі у Даўгінава.

А калі яшчэ ўлічыць прапольскі элемент у мястэчку, які пры падтрымцы сваіх і вярхоўных уладаў рабіў сваю антыбеларускую ганебную справу (збор подпісаў, лісты, даносы і г.д.), то становіцца зразумела, што ў такіх умовах беларуская семінарыя доўга праіснаваць не зможа. І вось "15 травеня 1921 года па загаду дырэктара Дэпартаменту Асьветы Ліхтаровіча" беларуская настаўніцкая семінарыя ў Барунах была закрытая. Такая пастанова была прынятая, нягледзячы на шматлікія просьбы і пратэсты жыхароў Барунаў і навакольных вёсак.

Такім чынам, семінарыя была ліквідаваная, не зрабіўшы ніводнага выпуску. Калі вучні даведаліся пра гэта, то сваімі сіламі паставілі "Паўлінку" Янкі Купалы, а назаўтра разам са сваімі настаўнікамі і дырэктарам прайшліся па родных мясцінах Францішка Багушэвіча, а затым накіраваліся ў Вільню, каб пазнаёміцца з беларускай мінуўшчынай. Магчыма, у іх былі і іншыя мэты.

Пятро Бітэль, вядомы пісьменнік, перакладчык, краязнавец (цікавіўся і збіраў матэрыялы па гісторыі м. Баруны) заўважае, што толькі "з 1 верасня 1923 года беларуская семінарыя ў Барунах была ператворана ў польскую". Сам дырэктар семінарыі Сымон Рак-Міхайлоўскі пакінуў Баруны ў 1922 годзе пасля таго, калі былі цалкам страчаныя надзеі, спадзяванні і магчымасці працягваць вучобу ў базыльянскіх мурах.

Так польскія шавіністычныя колы не дазволілі "беларускім дзеткам на зямлі беларускай вучыцца па-беларуску, не дазволілі гадаваць беларускім сялянам дзетак, не калечачы іх душаў".

Нягледзячы на такі свой кароткі і складаны лёс, беларуская настаўніцкая семінарыя ў Барунах яскрава паказала, што на гэтых землях былі, ёсць і будуць беларусы, якія імкнуцца да навукі, да сусветнай культуры, а ў гэты цяжкі для іх час яны хочуць не столькі абараніць сваё (бо сілы былі няроўныя) колькі мець сваё, роднае, нацыянальнае.

*Янка ТРАЦЯК.*

КУФЭРАК № 5

Рэдактар укладкі Міхась Казлоўскі. Выпуск падрыхтаваны пры ўдзеле Алеся Капуцкага, Анатоля Акуліка, Яўгена Міцкевіча. 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а, "РГ".

